УДК 821.161.3-1
ББК 84(4-Беи)-5
М 29

**Мархель, У.**

М 29 але...: выбраная лірыка / Уладзімір Мархель. – Мінск: БФК, 2007. – 208 с.

ISBN 978-985-6523-25-3.

Кнігу склалі вершы, выбраныя аўтарам з таго, што ён пісаў, часам надоўга перапыняючыся, з юначых гадоў да сённяшніх дзён.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4-Беи)-5**

ISBN 978-985-6523-25-3

*куды Бог слова ні пашле,*
*не закіпіць яно ў смале,*
*а насячэцца на скале*
*або прасвішча на страле*
*ці закружляе на крыле*
*не ў злоснай цемры –*
*на святле*
*і ляжа на маім стале,*
*але...*

## ГРЫБЫ

Ля яліны грыбы
Падрастаюць патроху,
Паказаўшы ілбы
Сярод лісця і моху.

Ледзьве кожнага твар
У расе спаласнецца,
Як мядовы загар
Ім на шчокі кладзецца.

Іх пяшчотай зямля
Саграває ў дыханні.
Хай растуць спакваля –
Мы спаткаемся ўранні.

*1957*

***

Не буду браць сябе у дужкі
Або шматкроп'ямі надзельваць,
Сябе адолею падужаць
І ўзнесці клічнік, як надзею,
Каб здагадаліся патомкі,
Што клічнік –
мой надзейны помнік!

*1957*

## ЭМІГРАНТЫ

*Склаў я гора у тарбіну,*
*Аж у Мерыку адвёз...*
*(Ф.Багушэвіч)*

Як птушкі,
гады за гадамі
яны пакідалі
свой край з халадамі
нялёгка, натужна.

Яны сабе выбралі
вырai, вырai
і прыбіліся недзе
ледзьве-ледзьве.
А пакінуты край
сабе лёсу не краў,
не наракаў...

Яны сябе ў выраях
з краю роднага вырвалі
і вярнуцца не здужалі:
не былі ужо птушкамі.

*1958*

## ТРАВІНКА

З-пад шышак перапрэлых і гнілых
Травінка прабівалася нясмела,
Халодны вецер здзіўлена заціх,
І ўсё навокал разам пацішэла.

А сонца, ўладна ўзняўшы бровы хмар,
Маўкліва за травінкаю сачыла,
Калі б дзьмухнуў вятрыска ёй у твар,
Яго праменнем сонца б апаліла.

*1959*

***

Трэба, каб кожны дзень
міма праходзіў радзей...
учора мяне ён плячом зачапіў
і нечакана убок адскочыў,
уздзяберыўся на слупы,
вінаватыя вытрашчыў вочы,
ліхтарамі глядзіць, не міргае:
чаму гэта ноч за сабою цягаю.

*1960*

# СПАТКАННЕ

Вечар з ноччу адкладваў спатканне,
Каб сустрэчаю нашай дзівіцца...
Чырванелі і вішні ў чаканні,
Але ты не магла запазніцца.

Зоры ўсыпалі неба мілосна,
Як адкрыліся ім твае вочы,
Нават жмурыўся вечар зайздросна,
На спатканне забыўшыся з ноччу.

Нас вяла неспазнанасць кудысьці
І кружлялі высока сцяжынкі,
Усміхаліся вішні з-пад лісцяў,
Што падгледзелі нашы абдымкі.

І калі я сказаў, што не згодны
Развітаннем вярэдзіць больш сэрца,
Твае вусны шапнулі лагодна:
– Вечар з ноччу, глядзі, расстаецца...

*1960*

## ТРАНСПАРЦЁР

Ён ніколі не стогне...
А перагрузяць –
задаволена крэкча
і натужліва ўздрыгвае,
але злосна скрыгоча зубамі,
калі ўпустую страчвае сілы.
А пакінуць –
ён пазяхне і суцішыцца
да новай змены,
каб большы цяжар прыняць на плечы.

*21.11.1963*

## ЗВЯЗДАР

Ён неба любіў па-свойму
І ночы пад ім прастойваў.
З трывожнай пакутай ці страхам
Ён верыў у зоры і знічкі,
У неба ўглядаўся прагна,
Людзям усім шчасця зычыў.
Ды зоры ў дрыготкім мігценні
Удачай яго не спаткалі:
Паўзлі па лагчынах цені,
Паўзлі, крадучыся, сутаны.
Ён згледзеў нарэшце,
як бліснула
Чаканая зорка ў надзеі,
А голас зусім ужо блізка
Гугнявіў: «Памрэш чарадзеем!»
Не стаў ён на сконе адступнікам –
Памёр чалавекам на золку,
І ў вочы яго патухлыя
Глядзела
нязгасная зорка.

*23.11.1963*

## ПЕРШЫ СНЕГ

Ён ведаў
Свой лёс ненадзейны
І падаць на дол
Спяшаўся:
Не згінуць бы толькі ў падзенні
І хоць бы з гразёй не змяшацца!

*21.12.1963*

## СЛОВА

Для аднаго
слова – смецце,
ён яго
кідае на вецер,
другому ж
слова
прыносіць бяссмерце,
адзін хоча
словам
выгарадзіцца,
другі жадае
словам
выгаварыцца.
Ратаваўся
ад слова
прынц дацкі,
а ўмеў
толькі за словам хавацца.
Цёплае,
моцнае слова
жыве з вякамі,
яго не затрэплюць
языкамі,
пустое –

жыве пачкаваннем
і познім і раннім
і па-старому
нанова
прыслужваць можа
людзям асцярожным,
а я хачу пудзіць
пустыя словы,
каб яны
не ўздымалі галовы...

*02.04.1966*

## ГЛЫБІНЯ

Заціх у роздуме калодзеж,
Не ловіць нават цішыню,
Стаіўшы ў сцішнасці халоднай
Сваю ад ночы глыбіню.
І хоць на дно яго зірнуць
Увесь абсяг узнебны хоча,
Высокім самым зоркам ноччу
Яго агледжваць глыбіню.

*16.07.1966*

***

Я ведаў: ты ўперадзе недзе
І бег па дарозе,
                    спяшаўся –
Хацелася поруч ісці.
Здалося, дагнаў.
Ды чамусьці
Спыніліся мы на дарозе...
Я ўперад зірнуў неспадзеўна
І ўбачыў: далёка-далёка
Губляецца постаць твая
І поруч не ты,
                    а другая.

*29.07.1966*

## ВЕНЕРА МІЛОСКАЯ

Яргосу* было няўцям,
А мабыць, зусім няважна,
Каго ён прадаў гасцям
За золата звон і важкасць.
І з лёгкай яго рукі
Пайшла па руках багіня...
Пакупка –
прад ёю не кленчылі,
А толькі нахабна краталі,
Пакуль...
не скалечылі
І не абвязалі канатамі.
І везлі за мора багіню
Звычайнай рабыняй.

*17.08.1966*

---

* Яргос – селянін з вострава Мелос, які знайшоў статую, названую пазней Мілоскай.

***

Спыняю вочы прад вачыма,
Пытаю:
– Хіба немагчыма,
Калі у вочы праўду рэжуць,
Застацца ў чалавечых межах?..
І затуманены твой зрок
Назад, здаецца, робіць крок
І ў самасузіранні дрэмле,
А я стаю ужо здалёк
І гавару зусім дарэмна.

*08.12.1966*

***

Патрэбнае слова знайсці не проста.
Патрэбнае слова прыходзіць з узростам.
Я словы усе на цябе патраціў,
Але на патрэбнае ўсё ж не натрапіў
І слоў пахіснуў аснову:
Мяне разумееш цяпер з паўслова.

*11.12.1966*

***

Калі ўжо верхаводкай недаверу
Плынь шчырасці заносіцца імкліва,
Бунтуюць ачышчальна нервы...
Нібы рака вясеннімі вылівамі,
Усходжваюцца нервы ўсплёскамі –
І ўжо да берагу спакою не прыбіцца,
Пакуль бунтоўнасцю не будзем апалосканы
І чысціня да дна душы не забруіцца.

*1966*

## ПЛАЧА БАБЁР

Плача, плача бабёр:
Моцна лапкі падзёр,
Як рабіў сабе хатку.
Плача, плача бабёр:
«Не стрываю, памру...»
Ды не бачна бабру,
Што бабрыха з кустоў
Ёду, скруткі бінтоў
Нясе поўны ахапак
Для падрэпаных лапак.

*1967*

## КАТОК

Пакаціўся клубок
У куток,
А каток
Думаў – мышка,
З крэсла скок,
Ды на бок –
І набіў сабе шышку.

*1967*

## НАШЫЯ КРОСНЫ

Снавалі жыццё, як шырокія кросны,
Ды ўтокі не клаліся проста,
І рваліся ніткі стасункаў –
Не ткаліся ўзоры карункаў.
Мы бэрсалі ніткі, завязвалі ў вузел,
Каб кросны шырокія звузіць...
На нашых задуманых кроснах
З табой не саткалі мы ўзораў мілосных.

*1967*

## МОЖА, ТАМУ...

Сэрца зусім не хворае,
Ды ходзіць ходырам.
І, можа, таму я
Яго не ўтаймую,
І застанецца яно непакораным,
Не будзе суцішвацца,
Што ў некаторых
Яно не паскорана –
Ледзьве калышацца.

*1968*

## ТУРБОТЫ І ЗОРКІ

Калі мне турботы нясеш
непарэбныя,
Я выбягаю
пад зоркі і неба...
І зоркі дрыжаць
не ад холаду вечнага –
Зоркі дрыжаць
за каханне і вернасць.

*1968*

***

*Памяці Паўлюка Багрыма*

Неашчаджанасць песні!
Як жа цяжка пранесці,
Як жа проста растрэсці
Па расе,
Пакрысе,
На світанку да Шчары –
Гукаў першыя чары...
Ён жа нёс
Песню слёз,
Што панікла без рэха,
Як чужая пацеха,
У выцятым сэрцы,
У паняверцы...
І да Шчары прыйшоў
ссівелы,
А песня ў грудзях засела;
Папярхнуліся хвалі:
Без песні слязу калыхалі.

*1968*

## СНЫ

Нічога не здарыцца з намі:
Мы з думкай адной засынаем.
А ноччу глыбокаю, позняю
Нам сны ўсё-ткі бачацца розныя...

*1969*

***

Ноч прычоску згрэбла,
Не звісаюць патлы.
Выпаў месяц-грэбень
З валасоў кудлатай.
Самалёт жа
раніцы
Ўплёў касу –
нямодна:
Месяц хай управіцца
Расчасаць да поўдня!

*1970*

## КАМЕНЬ

Камень ляжыць на дарозе –
Яго можна папхнуць
І адкінуць мажліва,
А то й раздрабіць на патрэбу.
Калі ж на яго не зважаюць,
На ім спатыкаюцца часам...
Ну, а камень на сэрцы?
Яго не спіхнуць, не адсунуць,
Не адкінуць убок
І драбіць небяспечна.

*1970*

***

Рабом пачуцця̆ў
Быць не хацеў
І запрыгоніў іх,
Як феадал,
Каб мудра,
Доўга жыць
І...
  размінуцца з Адраджэннем.

*1971*

## ТПР-РУ-У...

Пад вечар утрапёны князь
Кудысьці гнаў і гнаў каня,
А ўслед раз’юшаны Пярун
Трос барадой жахліва:
                                        – Тпр-ру-у,
Бо спарахню і ператр-ру-у!
Ды за лагчынай, ля агню,
Князь адпачынак дасць каню.
Там, ля свяшчэннага кастра,
Дзікоўны, першабытны страх
Адскочыць за мядзведжы корч,
Атуліць вайдалоткі ноч,
І пожаднай малітвай вочы
Напэўна сына напрарочаць...
І князь і вайдалотка
                                        да відна
Пагроз не чулі Перуна.

*1972*

***

Цябе адчуў, як аднаўленне,
Як сіл нязведанае выйсце.
Ты – старт мой
І рывок здзіўлення,
Маіх здзяйсненняў сэрцабіцце...

Калі ж не хопіць мне паветра
І зойме дух ля фініша-спаткання,
Усёй істотай у цябе паверу –
І станеш ты
Маім другім дыханнем.

*1972*

***

Мы чуем бясконцасць,
куды аднаму не ступіць,
не сягнуць, не дапасці,
куды немагчыма ўдваіх,
калі не адолець
Узаемаадлегласць.

*1972*

***

І як тут быць, і што чыніць,
Калі захоплены ўсе бытам,
Калі бясчынствы і чыны
Адным надзелены карытам.

І як тут выйсці з небыцця,
Якім валодаць трэба спрытам,
Калі пачатак і працяг
Абмежаваны ўсё ж карытам.

*07.08.1973*

## КАЛІ Ж, КАЛІ...

Калі ж, калі ў маім быцці
наступіць за-быццё
і не растрачу думак
розуму няўлоўнага,
адважуся рвануцца
ўрэшце ў адкрыццё
і пэўна прыступіць
да самага галоўнага?

Магчыма, будзе ўсё
адкладвацца на потым,
пакуль не навярэдзяць
ёмкія звычайнасці
і не адхлынуць
са штодзённасцю ляноты
бязвольныя пакуты
цьмянай прадчувальнасці...

*1973*

***

Ты стала шчымліва-далёкім
І неадгаданым каханнем,
Дзе сэрцу не трэба палёгкі,
Дзе боль, як нястрымнасць гучання.

Балюча збліжацца здаля нам
Праз лёс неспагадны кахання,
Хоць вочы удалеч паглянуць –
І гукі звіняць несціхана.

*1973*

***

Побач думае чалавек.
Не перашкаджайце яму
І самі думайце
Або паспрабуйце думаць
З ім заадно.
А калі не ўмееце
Ці не ўдаецца,
То хоць не трасіце
Таго за рукаў,
Хто думае:
Праз хвіліну-другую
Ён адумаецца...

*1974*

## ЧАС

ляціць вечны час
праз нас –
і лічыць,
і лічыць,
як ісціну зычыць
на потым,
каб вывесці з квоты
часовае ў нас
і нашае ў час,
і ніхто не адлучаны, ніхто не забыты,
нікога ні зводдаль, ні збоку –
тут усе застаемся мы ў цэнтры

*01.08.1975*

***

Прад Табою, Прырода,
Я паўстаў не па часе,
А ў пачатку зыхода
Ці ў зыходзе пачатку.

На Цябе я не ў крыўдзе,
Ты дзялі палавінна:
Што было, хай не прыйдзе,
Але быць штось павінна.

*1977*

## РОДНАЕ СЛОВА

Родным словам, як прашчай,
Не замахваўся прашчур
І не цэліўся ў слоўнік суседаў –
Сваё слова выходжваў, як ведаў.
І яно, недазнанае, кволае,
Ад зямлі дабрасейнай адскоквала,
Кучаравела лёнам цыбатым,
У прастах выпівала расу,
Мяккім кужалем ехала ў хату,
Каб паслаць магла
Белая-Белая Русь
Мовы роднай абрус.

*1978*

***

Быццам нечыя неспагадзь
На сягоння й на потым,
У душы маёй непагадзь
Разлілася патопам.

І не выплысці, здэцца,
Са стыхій паняверкі,
Ды трымаецца сэрца
Паплаўком на паверхні.

*1978*

## МОЙ ЦЕНЬ

А можа цень мой недарэчны
Лёг пад святло тваё надоўга?
Ён пры табе, ён неаспрэчны,
Нічога ў ім не зменіцца, нічога,
А раптам з іншым зажадае стрэцца –
І ўжо тады тваім святлом сатрэцца?

*1978*

## ЧУЛІ ВЫ...

Чулі вы
            нямых гаворку?
Голас ад натужнай мукі,
быццам жар, з душы выгортвае
слоў апаленыя гукі,
каб пажар пачуццяў выказаць –
і шугаюць полымем нязвыклым
перад вамі рухі,
                        рукі:
дайце, дайце слоў нямому,
ці знямейце
                  хоць на момант.

*1978*

***

*Адаму Мальдзісу на 50-годдзе*
*і на ўсе наступныя юбілеі*

Наш лёс не самы-самы,
Ды ёсць у ім Адамы,
Здаецца, як нядаўна,
Як быццам толькі ўчора
Свяціўся час адамны
Міцкевічам, Кіркорам,
А ўжо сягнуў у памяць
І Мальдзісам адаміць.

*05.08.1982*

## МЫ ЕДЗЕМ

Мы едзем трамваем,
Не томяцца ногі,
Курс верны трымаем,
Не збіцца з дарогі.

Мы едзем трамваем,
Не чуем знямогі,
Цярпім і трываем
Без перасцярогі.

Мы едзем трамваем,
Не знаем трывогі,
Наноў паўтараем
Маршрут наш убогі.

Мы едзем трамваем,
Мінае час пік,
І ўрэшце трапляем
Ва ўтульны тупік.

*1983*

***

Скажы, ці прымальны
Непазнавальны
Мой свет для цябе?

Скажы, ў маім свеце
Хочаш прыкмеціць
І бачыць сябе?

Толькі б знікла ў пацешак
Здраднасць усмешак,
Як зойдзеш у свет мой.

Толькі б зведаць глыбіні,
Дзе б мы свет не глумілі,
Як выйдзем з сябе мо...

*1987*

## СТУДНЯ І ЖУРАВЕЛЬ

Студня ты, здаецца,
я ж, напэўна, журавель...
Вось і прагну паглыблення,
не імкнуся ў мель,
Еднасці хачу з прадоннем невычэрпным,
Толькі час чаканнем
доўжыцца нясцерпным,
А на дне – жыццёвы сэнс, яго бруя і хмель.

*1987*

## ПАЎСТАНЬ

Паўстань над узроўнем узросту
І зведай бясконцасць кахання,
Вярнуўшыся ў светласць світання,
Паўстань над узроўнем узросту.

Магутна, глыбока і востра
Пачаткам працягнецца ранне –
Паўстань над узроўнем узросту
І зведай бясконцасць кахання.

*1988*

## ПАЧУЦЦІ І СЛОВЫ

Пачуцці і словы так несувымерны,
Што лепей аціхнуць і слухаць пачуцці
бясслоўна,
Каб словы, як водгул пачуццяў, гучалі
няўлоўна –
Пачуцці і словы так несувымерны.

Каб словы стрывалі, стрымалі напор
свой бязмерны
І гук пачуцця панаваў
над усім невымоўна –
Пачуцці і словы так несувымерны,
Што лепей аціхнуць і слухаць пачуцці
бясслоўна.

*1988*

***

Мы нанова спазнанаму дзіву
Адкрываемся без наракання:
Дасканаласць зліцця–пераліву
Нам рыхтуе ўзаемачаканне.

І тваё і маё спасціжэнне
У лучбе нашых душаў дасць поступ –
Калі ёсць у нас свята збліжэння,
То хай будзе яшчэ й свята посту.

*1988*

***

Твае недамоўкі, мае недаверы
Расплавіць спагадна ратунак вачэй,
І выплача рэўнасць няспаных начэй
Твае недамоўкі, мае недаверы.

Рассеюцца здані, прывіды, хімеры,
І поўні пагляду стане лягчэй,
Калі недамоўкі, калі недаверы
Расплавіць спагадна ратунак вачэй.

*1988*

## СВЕТЛАСЦЬ СВІТАННЯ
## І СУМУ ПЯШЧОТА

Ноч паасобку ўздыхам працяжным
Дзень на сустрэчах палёгкай ружовай
Час недазнанасць давер і трывога.

*

Даніна мінуламу – хворасці нашы:
Балюча матэрыі на раздарожжы
Учора і сёння, часовасці вечнай.

*

Знаёмай незнаёмасцю разлукі
Не выйсці з асалоднага палону:
Запомнена чакаюць рукі,
Пяшчотаю сумуе лона.

*1989*

## НЕЗНАЁМАЙ У ДУБУЛТАХ

Стаю на мяжы
Учора і мора:
Вадой набяжы
За хваляй каторай,
З’явіся сірэнай
Ці, можа, ундзінай,
Не будзь толькі пенай
Ты гэтай хвілінай.

Стаю на мяжы
Учора і мора:
Сябе пакажы,
З’яві, як учора...

*21.08.1989*

***

Між іншых нас трое:
Ты, Я і Каханне –
Не мрочма настроі,
Не доўжма чаканне,
Не збольвайма мроі!

*1989*

## МОМАНТЫ СВЕТЛАЦЕНЯЎ

Не спыніш зараз – больш не будзе:
Імгнецца момант незваротны
Адважна ў нашым перапудзе
Спадзеўна-стратным потым.

Пачатак ты, а я даўжэнне,
Я цень гарачы яснага святла,
Я аддаю зацененасць цяпла
І ўвесь святлею ў набліжэнні.

*1990*

***

На крыўдах тваіх непазбытых
Напятая ту́га туга́,
І цэліцца ў яснасць смуга
На крыўдах тваіх непазбытых.

Нічога яшчэ не забіта,
Усё на жыццёвых кругах –
На крыўдах тваіх непазбытых
Напятая туга туга.

*1991*

## З-ПАД НЕТРАЎ

Яе са мной ніякая зямная сіла
Не распрыгоніла ні разу ў любным полі –
І на яе майго кахання не хапіла,
Бо не было яго ў яе самой ніколі,
І не ўзяла яна яго з мяне й паловы,
Бо для любові не было ў яе прыстання,
Бездапаможна затрымцелі ў вершах словы,
Дарма агучыўшы паэзію кахання:
Не стаўся лад іх першагукаў дастатковы
Для зараджэння, абуджэння, паклікання
Зямнога пачуцця
З-пад нетраў небыцця.

*20-21.07.1992*

***

*Генадзю Кісялёву*

Вось і дайшлі да нас Добрыя Весці,
Што не ў Маскве, не ў Каломне, не дзесьці,
А ў беларускай сталіцы, у месце,
Славу якога ты хочаш узнесці,
Стала трыумфам твая абарона –
Слаўнага доктара ззяе карона,
Па-над табою ўзнятая смела...
Трохі пад ёю і нам пасвятлела.

*22.10.1993*

## МОЙ ГАСЦІНЕЦ

Іду між ацішэлых дрэў,
Вядзе мяне гасцінец мой,
Я тут анёла зноў сустрэў,
Пазнаў сваё тут дрэва-каляндар,
Яно ківае мне ліствой –
І за лістом ліст падае з-пад хмар.

*

І лістапад, і снегапад
Дарогу ўдалеч замялі,
Па цаліку наўпрост ідзе мой лёс –
І падзяляе далягляд
Узоры яркія зямлі
І ўзоры геаметрыі нябёс.

*

Я кожны дзень, як пілігрым,
Хачу наблізіць далягляд,
Які ў прастора-часавай дзяльбе,
Каб бачыць тут, як там, за ім,
Не свету край, прадоння спад,
А сэнс быцця і, можа, сэнс сябе.

*

З прастораю скрыжуе час пара –
І ўспыхнуць спынена вякі:
Апошні ліст майго календара
Не з-пад мае зляціць рукі
І не ў маю апусціцца далонь.
Ці паглыне яго патоп-вада,
Ці спапяліць чысцец-агонь,
А дзён мінулых чарада
У ясны ўвойдзе небаўздым,
І не адступіць болей далягляд,
І ўбачу сэнс сябе затым,
Але ці вам скажу? Наўрад...

*20.04.1996*

## ЭСКІЗ

Эскіз нявызнаных стасункаў
Ад нас узяты ў лёсу цень.
Ды кліча да сябе штодзень
Эскіз нявызнаных стасункаў.

Праліты душамі прамень
Хай вырве з тысячы малюнкаў
Эскіз нявызнаных стасункаў,
Ад нас узяты ў лёсу цень.

*12.05.1998*

***

Пайшлі мы ў заўтрашняе ўчора,
Дзе далягляд заканцавы,
Дзе мроям набываць правы,
Пайшлі мы ў заўтрашняе ўчора.

Цяпер пяшчотна ўспыхваць зорам
І ўзор выпісваць агнявы –
Пайшлі мы ў заўтрашняе ўчора,
Дзе далягляд заканцавы.

*16.05.1998*

## МАЎЧЫЦЬ МОЙ ТЭЛЕФОН

Маўчыць мой верны тэлефон
Чаканым голасам тваім,
Нібы аціхнуўшы зусім,
Маўчыць мой верны тэлефон.

І як адолець мне палон,
Калі маўклівым нам дваім
Маўчыць мой верны тэлефон
Чаканым голасам тваім.

*19.05.1998*

## ТАБЕ АДНОЙ

Табе адной, адзінай, адзінокай
Я шлю ў засветы памяць пачуцця,
Каб не было пустэльні небыцця
Табе адной, адзінай, адзінокай.

Пакутным часам ночаю глыбокай,
Калі выходзіць месяц з прыкрыцця,
Табе адной, адзінай, адзінокай
Я шлю ў засветы памяць пачуцця.

*07.091998*

***

Нясцерпны сорам існавання
Падкажа выйсце з мітусні,
Ты толькі раз адчуй, прысні
Нясцерпны сорам існавання.

Быццё прасветліцца дазвання,
Калі ў нязнанай вышыні
Нясцерпны сорам існавання
Падкажа выйсце з мітусні.

*1999*

# НА МЯЖЫ

На мяжу сну і явы,
Дзе тваё вымярэнне,
Не ступае старэнне
На мяжу сну і явы.

Вобраз твой з-за выявы
Мроя памяці стрэне
На мяжы сну і явы,
Дзе маё вымярэнне.

*1999*

## АДНО СЛОВА

Адно ці знойдзем слова на дваіх,
Каб асвятліла нам і верх, і дно,
Калі пачаўся пошук наш даўно,
Адно ці знойдзем слова на дваіх.

Калі мы ўбачым у сабе сваіх,
Калі сябе адчуем як адно,
Адно ці знойдзем слова на дваіх,
Каб асвятліла нам і верх, і дно.

*03.05.2000*

***

І што ўжо пройдзена дарог,
І што растрачана ўжо сіл,
Ды я ступіў на твой парог –
І буду сёння маладым:
Згарнуўся сцёрты небасхіл,
Адкрыўся чысты небаўздым.

*2000*

***

**Н**а сон успамін, акрамя
**А**дбытых сумненняў маіх,
**Т**ваё калыхае імя,
**А**дно як пачатак і ўздых.
**Ш**чыміць летуценнасць гадзін:
**А**дзін без цябе я, адзін.

*2000*

## СТУПІ

Ступі ў маю уяву
І спраўдзі небаўздым,
Каб нам застацца ў ім,
Ступі ў маю уяву.

Убач у мроі яву,
З'явіся, а затым
Ступі ў маю уяву
І спраўдзі небаўздым.

*05.03.2001*

***

*Віктару Скорабагатаву*
*на 50-годдзе*

Адно – што сёння,
Іншае – што ўчора!
Быў дзень звычайны,
А настала свята:
Калі гады бягуць,
Мінаюць **скора**
То іх Табе
Хай набяжыць **багата**!

*15.11.2001*

***

Мне дай надзею на спатканне,
Пакліч у шлях за небакрай,
Каб стаўся перспектывай рай,
Мне дай надзею на спатканне.

Сябе ні ў чым не дакарай,
Адолей самазамыканне, –
Мне дай надзею на спатканне,
Пакліч у шлях за небакрай.

*2002*

## НАВАГОДНІ НАПАМІНАК

Праходзіць год,
Ягоны ход
Ёсць нейкі бег
І не на смех,
Бо ад варот,
Наадварот –

Ад спраў да ўцех
На зло, на грэх,
Бег наўздагон,
Бег пад адхон
Ці, можа, ўвысь –
Абы кудысь.

Бег ад варот
Не на зварот.

*05.08.2006*

## ПАЧУЦЬ

Мой крык няўлоўны
І ледзьве чутны,
Хоць для мяне галоўны
І як па мне – магутны.

Мой верш двухслоўны
І ледзь заўважны,
Хоць для мяне галоўны
І як па мне, то важны.

Хто крык дарэчна
І верш мой чуе,
Таго сустрэчна
Пачуць хачу я.

*04, 11.08.2006*

## ПАКЛЁП

Паклёп ідзе за нагаворам,
Ніяк няма яму скanчэння,
У сёння ён ідзе з-за ўчора,
Каб падаўжэць ад тлумачэння.

*23.09.2006*

***

На мір была надзея і на шчырасць слоў
Да вашых, што супроць, таемных галасоў.
Без слоў вы апусцілі ў урну галасы –
І больш не бачна ўжо нейтральнай паласы.

*23.09.2006*

## ХІТРУН

Зайшоў аднойчы да мяне хітрун,
Каб да чуллівых дакрануцца струн.
Не загучала ні адна струна
Ад рук здаўна зайздросных хітруна.
Што застаецца тому хітруну?
Дарваць сваю адзіную струну.

*23.09.2006*

## КУЛЬ – НЕ СНОП

А ты датуль
Зазнаны сноб,
Пакуль
Як поўны зерня сноп.
Без зерня ж ты ўжо нуль,
Таму й не сноб
І нат не сноп,
А куль.

*12.03.2007*

## АДЗІНКА Й НУЛЬ

На горцы, на гары
Адзінка й круглы нуль
Былі дзесяткай дапары,
Трымаліся датуль,
Пакуль
Не дзьмухнулі вятры
Няведама адкуль.
Адзінка дагары
Знянацку ўпала ў рэчку Буль,
Скаціўся да падножжа нуль –
І на гары пустой
Няма дзесяткі той.

*07.04.2007*

## НЕ ВЫЙСЦІ

Самотна і скрушна,
Тужліва і сумна,
І тое абрыдла,
Што ўзнікла двурушна,
Дзе ўсё неразумна
І большае быдла.

Хто з нас перабудзе
У тым перапудзе
Абсурды, аблуды,
Дарогу ў нікуды?

Прыпынкаў калісьці
Не знала Зямля,
Хоць зараз не выйсці,
Не выйсці й пасля...

*22.04.2007*

## СЛЕД

След пакідае той,
хто ідзе па цаліку
і ў тым напрамку,
на які ніхто не скіраваў,
і толькі ў тым выпадку,
калі ніхто хоць нейкі час
за ім не ступае.

А той, хто хоча,
каб ішлі за ім,
і вядзе за сабой натоўп,
не пакіне следу:
наступнікі след затопчуць,
а то й апярэдзяць,
і гэта ў лепшым выпадку.

Лідэр заўсёды часовы
і нават бяследны:
яго след затаптаны
ці станецца шляхам?

*06.05.2007*

***

Ты пагарджала
мовай Купалы –
і слоў для цябе я не меў,
я моўчкі нямеў:
ці выклікнеш зыкі,
калі без’языкі;
як скажаш нябёсам,
што стаў безгалосым?!

*01.01.1968, 09.05.2007*

***

Ніякім калёсам
не ехаць прад лёсам,
таму вось здзяйсняцца дзівосам,
пакуль мы занятыя кросам.

Ніякім калёсам
не з'ехацца з лёсам,
таму вось насустрач нябёсам,
дзе край зямлі, мне ісці босым,
а шлях значыць ранішнім росам...

Усякім калёсам
каціцца за лёсам.

*12.05, 02.06.2007*

***

пішацца меморыя
дзеецца гісторыя
ці былі каторыя

*01.07.2007*

## ПАЧУЦЦЯЎ НЕ ПАЗЫЧЫЦЬ

*If thou wilt leave me, do not leave me last,*
*When other petty griefs have done their spite,*
*But in the onset come: so shall I taste*
*At first the very worst of fortune's might.*
*(Ўільям Шэкспір)*

Пачуццяў не пазычыць і не ўкрасці,
І не наблізіць іх да параўнання,
Нічым не вымераць, не ўзважыць жарсці,
Не вынайсці крытэрыяў кахання.

Ні формулай ніякай, ні ўраўненнем
Не вызначыць, якая горай страта,
Якое болей цяжкае раненне,
Калі жыццё пачуццямі багата.

Не нам парадкаваць свае пакуты:
Лёс ведае, чарга бядот якая,
Таму ва ўсе жыццёвыя мінуты
Найгорш, калі мілосць сама знікае.

*11.07.2007*

## НЕ ПОСТ-

Не пост- – пустмадэрнізм,
не пост-, а пустаслоўе
дыктуе порсткі арганізм
на лес пусты, на безгалоўе,
на пост вялікі і на свята –
слоў шмат, а з сэнсам пуставата,
і не адзін якісьці пост,
а ўсе відочныя пасты
заняты болей на вырост,
каб пост-мадэрн не быў пусты
ні ў часе свят, ні ў грэшны пост,
калі мадэрнізован хрост
у запаганеныя ксты.

*14–15.07.2007*

# СА СЛОВАЎ ДЗЕДА АНТОСЯ

Прыйшоў я не знекуль
кудысьці,
а згэтуль сюды,
бо тутэйшы,
не трэба паўзці мне
і плысці,
я тут малады
і старэйшы,
на месцы сваім,
не сыходжу,
не ўзвёў яшчэ ўсю
агароджу,
не здрадзіў сваёй Беларусі,
таму й беларусам завуся.

*15.07.2007*

## ДА МАНАЛОГА МІХАЛА

*Зямля... зямля... туды, туды, брат*
*Будуй яе... ты дай ёй выгляд*
*На новы лад, каб жыць нанова.*
*(Якуб Колас)*

Мой родны кут
не дзесьці – тут
схоў ад пакут,
не быць бядзе
у ім нідзе:
ў сваім куце,
як захацеў,
я вольны кутнік
і не пакутнік;
я не гатоў
мець шмат кутоў,
бо па кутах
я ўжо не птах
і нат не кутнік,
а шматпакутнік,
бо пэўна тут,
дзе родны кут,
здабудзецца пасля
і Новая зямля.

*21.07.2007*

## ДЗЕД МОЙ ДА БАБУЛІ

(Успамін)

Я сёння з краю,
не наступаю
і нат не тупаю:
стаю ўвесь дзень
и перад ступаю,
каб мой ячмень
стаў крупаю,
бо захацеў,
каб у куце
была куцця
хацця,
а да куцці
ўжо ты хаці.

*21.07.2007*

***

Ты для мяне была высноваю
Парой вясноваю.
Ды ад мяне цябе канікулы
У лета клікалі,
Ты станавілася насеннаю
Парой асенняю,
Пасля са мной ішла за моваю
Парой зімоваю,
Таму й страчалі мы за новую
Пару зімовую.

*22.07.2007*

***

Ліцвін, паляшук, беларус,
адчуўшы ў мазгах induced пературус,
мінулі ўзаемны прымус,
але, ідучы на хаўрус,
забыліся вызначыць курс –
і так засталіся ў балоце
па ўласнай ахвоце.

*08.08.2007*

## НЯЎЖО Ж?

Быў для бульбы нязгорш
І служыў дапары
Мною сплецены кош.
Мае вершы збяры
У той зношаны кош
І схавай, бо нягож:
Дзверы ў склеп падапры –
Няўжо ж потым сябры
Іх успомняць, няўжо ж?..

*3.10.2007*

## ВЯРНІ МЯНЕ

Вярні мяне ў маю віну –
І я з яе вярнуся нам,
Каб даць рэальнасць нашым снам,
Вярні мяне ў маю віну.

Каб толькі міласць чуць адну
Ўзаемна ўсю – не папалам,
Вярні мяне ў маю віну –
І я з яе вярнуся нам.

*07–08.03.2006*

***

Трымціць струна майго чакання
Адгукам постаці тваe,
Калі цябе мне не стае,
Трымціць струна майго чакання.

Каб не спыняць тваё гучанне
Ў эфіры мройнасці мае
Трымціць струна майго чакання
Адгукам постаці тваe.

*08.03.2006*

***

Да мяне завітала туга
Прычакана тваім сілуэтам,
Падказаўшы мне стацца паэтам,
Да мяне завітала туга.

І з'яўляецца вершаў чарга
Пад магічна-цнатлівым сакрэтам:
Да мяне завітала туга
Прычакана тваім сілуэтам.

*12.03.06*

## АХ, ЗНОЎ...

(Санет)

Ах,
зноў
слоў
крах.

Ах,
зноў
сноў
страх.

Стой,
час:
мрой
нас
не
ў сне!

*07–08.04.2006*

***

Ўзаемадоўжыцца імкненне
Працягласцю чакання стрэчы,
А стрэча доўжыцца імгненне
І ўраўнаважвае ўсе рэчы.

*14.04.2006*

## СТРЭЛІ МЫ

Прайшла зіма,
Сплыла еймосць –
Цябе няма,
А я ці ёсць.

Даль не відна
Мільён гадзін –
Ці ты адна,
Ці я адзін.

Што даль вярсты,
Што часу бой,
Калі ёсць ты
І я з табой!

Няма зімы,
Ёсць толькі час,
Дзе стрэлі мы
Сябе для нас.

*22.04.2006*

***

Быць з табой ці не –
Няма пытання
Сёння для мяне
І для кахання.

Дзень, другі міне
Майго чакання
Мройна для мяне
І для кахання.

Час хіба памне
Мой жар жадання:
Ты ёсць для мяне
І для кахання.

*23.04.2006*

## МАГІЯ ДОТЫКУ

Выйсці ў эротыку,
Вычуць дазвання
Магію дотыку,
Сілу кранання...

Жарсцяў экзотыку
Браць без вагання
Магіяй дотыку,
Сілай кранання...

Любасці готыку
Ўзняць да пазнання
З магіі дотыку
Сілай кахання...

*29.04.2006*

***

Чуць памкненняў нашых гукі,
Бачыць разам наяву сны,
Дзе пяшчоту помняць рукі,
Разнявольваюцца вусны
І натхнёна
Лонам лона.

*01.05.2006*

## З ПЕСНІ ПЕСНЯЎ

*(паводле перакладу Скарыны)*

Цалуй жа мяне і цалуй
Пацалункам вуснаў сваіх,
Бо міласць твая даражэй
І мацней ад вінаў усіх.

*06.05.2006*

***

Быццё з’іначана як быццам:
Былы набытак – сёння страта,
І мы з табой маглі забыцца
Пра наша свята?!

Шмат памянялася пазіцый,
І адляцела лет багата –
І мы з табой маглі спазніцца
На наша свята?!

Не заціхала навальніца
Над намі ці адна зацята,
Бо нам магло з табою сніцца
Шчэ наша свята.

Памкненнем творыцца быліца,
Сюжэты ўзносячы крылата, –
Каб нам з табою суадбыцца,
Ёсць наша свята!

*08.05.2006*

***

Не сонца – імжа за акном,
Пачуцці ва ўзнебную просінь
З туману будзённасці ўзносіць
Адным вершаваным радком
Завоблачных даўніх запросін.

*20.05.2006*

***

Сустрэчу не ў лесе,
А ў гаі спатканне
Прарочыць у стрэсе
Зямное жаданне.

*

Ты далёка дзень каторы –
Тэлефоны падказалі,
І каханне у прасторы
На мабільнай кружыць хвалі.

*

Між намі кіламетры,
Мабільнікі між намі –
Каханне у паветры
Расходзіцца кругамі.

*21.05.2006*

***

Стукаюцца вецці
у тваім акне –
гэта, чуеш, весці
у мілосным свеце
ад мяне.

*26.05.2006*

## ЗА ЛЕТАЎ ПЯЦЦЮ Ў ПЯЦЬ

Слой за слоем у зямлі,
Дзе скарбы і чарапкі,
Адкрываліся, калі
Ты пачала раскопкі.

Трамбаваліся ўсе спрэс
Слаёў культурных фарбы –
Ты ж пластоў рабіла зрэз
І адкрывала скарбы.

А сёння ты згадала,
Як за летаў пяццю ў пяць
Мяне ты закапала,
Каб нанова адкапаць.

*28.05.2006*

***

Я зноў пракладваю маршрут
Дарогай невядомых міль,
Хапала б толькі мне мінут,
Ставала б толькі жарсці хвіль
Дапасці да тваіх варот
І там забыцца пра зварот.

*03.06.2006*

***

Ёсць Залатая горка,
І ты на горцы той
Заўсёды ў акружэнні.
Мне ж соладка і горка:
Да Горкі залатой
Мы ў розным прыцяжэнні.

*04.06.2006*

***

Быццё ў нас такое:
Да кропкі адное
Імкнемся абое.

На свеце ёсць міг
Не ціх і не ліх
Для нас абаіх.

Адчынім акно:
Ў засвеце відно,
Што мы ўжо адно.

*14–15.06.2006*

***

Цябе пакупалі
Ў купелі Купалля,
Калі прадракалі
Лілейныя далі.

Мяне ж паклікалі
Лілейныя далі –
І нас калыхалі
Люляйныя хвалі.

І ў нашым хаценні
На тым заставацца б,
Тварыць летуценні,
Трымценні субстанцый.

*06.07.2006*

***

Твой лёс цябе ў далёкі лес занёс,
Мяне ж зняволіла сталіца –
Таму й мая малітва да нябёс:
Не прывядзі ўсумніцца!

Усё радзей нас лучыць тэлефон
І ўсё часцей даймае праца,
Таму й малюся на самотны сон:
Не дай мне сумнявацца!

Ці пачуццё ўлагодзіць, ці паб'е,
На мілаванне больш спадзеву –
Чаму ж, чаму благаю да сябе:
Не дапусці сумневу?

*09.07.2006*

***

Ці час мінае летам,
Ці час бяжыць зімою –
Заўсёды ты за светам,
Заўсёды ты са мною.

Ці сцішуся ў маркоце,
Ці змоўкну ў барацьбе
Ахвярнай на рабоце –
Мне думаць пра цябе.

*23.07.2006*

***

Мінае ноч,
Не мружу воч:
Маю сёння
Ноч бяссоння.
Вачэй не звесці:
У Шкотах дзесьці
Ў неспакоі
Думкі-мроі,
Не йдуць дахаты –
Табой заняты...

*24.07.2006*

***

Узняць бакал,
Прамовіць тост
За даўні шал,
За доўгі пост.

Пасля наноў
Чакаць дзён шмат
Праўдзівых сноў –
Супольных свят.

*25.07.2006*

***

Не руш сябе спакусай,
Знявагай не кранай,
З маркотай беларускай
Не чэрпай цераз край.

Ёсць наш з табою бераг,
Пагляд мой на мяжы:
Сябе ў сваіх намерах
Стрымай і зберажы.

На беразе чакання
Даўно адзін стаю.
Цячэ рака трывання,
Нясе мілосць тваю...

*26.07.2006*

***

Змітрэнжыла сягоння золь
Зняволенае цела,
І згадку запалоніў боль,
Як ты таго хацела.

Табе ці чуюцца здаля
Хаця б адгукі болю,
Якому суджана пасля
Тваю спаўняць патолю.

*26.07.2006*

***

Прастору захапіла спёка,
А ты была яшчэ далёка.
Насустрач сонцу ў любы свет
Мяне імчаў веласіпед.
Мінуўшы **Рубяж**эвічы,
Я ўзяў апошні свой **рубеж**.
Далей на **Палан**евічы
Быў мой арыенцір, але ж
Які з дарогі тое плён:
Я ехаў да цябе ў **палон***.

---

*У **Рубяж**эвічах уяўнены **рубеж,** заслон,
**У Палан**евічах даўно засведчаны **палон**;
Між тых мясцін і па-за імі я шукаў мяжу,
Дзе я прайду заслоны і **палон** свой заслужу.

*27.07.2006*

***

Дзесяць дзён цябе не бачу,
Дзесяць дзён,
Паўцякалі прэч усе дарогі стрэч,
Шлях, што вывеў бы на ўдачу,
Не відзён.
Гукі не гучаць напеўна
Анідзе.
Запалю ліхтар па-над гасцінцам мар,
Гэта да цябе напэўна
Прывядзе.

*28.07.2006*

***

Адлегласці ўсяго на крок,
А часу ўжо на ўздых адзін –
І ты дасі мне свой урок,
Дзе час складзецца з тых гадзін,
Якія вызначаць зарок.

*02.08.2006*

***

Я ўжо нагадваў рэчышча сухое,
Быў нежывы, ляжаў, паверглы, ніц,
Як ты, адолеўшы балот ліхое,
З даўнейшых нашых выцекла крыніц
І жыццядайны выбрала кірунак,
Каб рэчышча ўвільготнілася зноў
І хвалямі ўздымала твой дарунак –
І я з засмяглых выйшаў берагоў.

*04.08.2006*

***

Бачу я і бачу ў сне:
Ты не ў сваім стаіш акне
І не са мною поруч,
Не пры маім плячы,
А я не ўспомню, чым тут памагчы –
І ўвесь загортваюся ў горыч.

*04.08.2006*

***

Сонца налівала медзь
Нават у бакалы–цені,
Толькі не хацеў мядзець
Твой прыручаны мядзведзь,
Твой няўклюдны летуценнік.
Ты яго схавала ў цень,
Каб сабою стацца зрэдзь.
Жджэ ў цяні і ноч, і дзень
Твой прыручаны мядзведзь.

*04, 05.08.2006*

***

Стаіш у браме,
Нібыта ў раме,
І твой партрэт –
Увесь мой свет,
Бы на сцяне
І не ў мяне.

Стаю ля брамы –
Партрэт тойсамы,
Але й сцяна:
Ты не адна...

*05.08.2006*

***

Вокал дробная імжа, якая
Далягляд узнеб'я ўжо заслала,
Спакваля у вечнасць дзень знікае,
Ад цябе ні знака, ні сігнала.

Дню не здзейсненых званком
вібрацый,
Дню без нашага судакранання
Часу не хапае затрымацца,
Месца не знайсці для пачакання.

*11.08.2006*

## ОВЭН

Ад суроку сёння схован
Твой адзіны ў свеце овэн.
Ён зусім не там схаваны,
Дзе тусуюцца бараны,
Не знайсці яго й са свечкай,
Як не станешся авечкай,
А без жартачак з агнём
Овэн можа быць ягнём.

*12.08.2006*

***

Ніводнае нядзелі
Мы разам не сядзелі
І ўсе, як ёсць, суботы
Адкладвалі на потым.

Самотныя нядзелі,
Тужлівыя суботы
Звычаіліся дзеля
Выпрабавання цноты.

І з кожнаю нядзеляй,
І з кожнаю суботай
Луналі мы надзеяй
Над бытавой турботай.

Суботы і нядзелі
Наш успамін глядзелі:
Яму займаць было ў ахвоту
Сабой нядзелю і суботу.

*12.08.2006*

## БРАХІКАЛАН ЗГУБ

Зняць
з губ
з пяць
згуб:
злосць,
млосць,
мой
спех,
твой
смех,
аж
наш
грэх.

*13.08.2006*

## ЗРУХ

*(Санет)*

Зруш
згук
мук
душ.

Зруш
з рук
пук
з руж.

Мець
дух
свой:

квець
рух
к Ёй.

*14.08.2006*

***

Над табой гульня вясёлкі
Творыць дзіўнае вяселле –
Ты збіраеш чуйна зёлкі,
Вырываеш пустазелле.

Пад вясёлкай ёсць на свеце
Розніца адна для згіну:
Ты выкідваеш у смецце
Ці высушваеш расліну...
А куды мяне–сцябліну?

*15.08.2006*

## МАЯ НЕЗАБЫВАНКА

Не згадкі, не ўспаміны
Мая незабыванка:
Са мною ўсе хвіліны
Яна ўначы і ранкам,
І днём, і вечарамі,
І дома, і ў дарозе,
На кірмашы і ў краме,
У сне, у вершах, прозе.
Не постаццю й абліччам,
А ўсёй сваёй істотай,
З'явіўшыся не з клічам,
Ты сталася ці ўпотай
Маёй незабыванкай,
Зусім не паланянкай.

*18–19.08.2006*

## ДА ЎЗЛЁТУ І ПА ЎЗЛЁЦЕ

На востраве-скале
Лунаеш за аблокі
У блогасці гадзін,
Лунаеш з ёй, але
Які б ні быў высокі
Узлёт высакародны,
Па ўзлёце ты – адзін.
Чым болей адзінокі,
Тым меней ты свабодны...
Да ўзлёту за аблокі.

*19.08.2006*

***

З табой хацеў бы хоць аднойчы
Дайсці да сутнасці адной,
Хапіла б толькі дня і ночы,
Хацела б ты ісці са мной,
Каб нашыя супалі грані,
І болей не было прычын
Ужо ні ночаю, ні ўранні
Адкладваць сутнасны пачын.

*20.08.2006*

## РАБ

*Когда строку диктует чувство,*
*Оно на сцену шлет раба,*
*И тут кончается искусство*
*И дышит почва и судьба.*
*(Б.Пастарнак)*

Калі ў нязграбнасці быцця
Радок узнік без пачуцця,
Радку не рады адрасат.
І аўтар сам радку не рад.

Калі ж на глебе і на сцэне
Ад пачуцця няма і ценю,
То можа раб адзін застацца
Без пачуцця і без мастацтва.

*21.08.2006*

***

У далячынь мне дзверы адчыні,
Пакліч пад сосны, на бухматы мох,
З табой пабудзем мы ў далечыні,
Куды ніхто, кром нас, дайсці не мог!

У ладкі нам запляскае сасна,
І мох праявіць свой таемны ўзор,
І будзе ў нашай далечы відна
Мілосць сустрэчная ў праменні зор.

*23.08.2006*

***

З табой мы побач не ляжалі
У спелай задухмяненай траве,
Калі пазбыты ў сэрцы жалі
І ўжо ніякай думкі ў галаве,
Калі блакіт нябёс і кветак хмель
Узносіць вечнасць у натхненне,
А ў памяці супольная пасцель
І жарсцяў вольнае здзяйсненне.

*23.08.2006*

***

Вецер растрэсае лісце,
Страціла водар трава,
Сэрца падказвае выйсце,
Толькі супроць галава.

Думкі й пачуцці ў разладзе
З восеньскіх выплылі хмар,
Я застаюся ва ўладзе
Чараў яе – маіх мар.

Вецер растрэсае лісце,
Думкі кружляе віхор,
Сэрца пазначыла выйсце
Нат галаве насупор.

Думкі растрэсае вецер,
Кружыць віхор пачуццё:
З ёй заставацца б у леце
Перамагаць небыццё.

*26.08.2006*

***

Калі не бачу я цябе самую,
Калі баліць чаканню ўжо майму,
Тады не проста без цябе сумую,
Але малю: крыху і ты сумуй.

*02.09.2006*

***

Яшчэ не пройдзены азы
З табой стасункаў,
Але ні кроку без слязы
І пацалункаў...
Як будзем любасць выяўляць,
Калі наблізімся да яць?

*02.09.2006*

***

Штоночы перад самым сном
Карціна звыклая відна:
Я за завешаным акном,
Падушкі дзве і прасціна.
Для ўдасканалення яе
Цябе аднае не стае.

*02.09.2006*

## ДЛЯ ЦЯБЕ АДНОЙ

Для цябе адной набыта
Любасці маёй узнеб'е,
Ды чутно: па ім нібыта
Хтось начы крылом у сне б'е,
Каб узнеб'е гэта засціць,
Каб яго згарнуць і сцерці,
Хоць няма на тое жарсці
І няма дазволу смерці.

Хтось няведамы й зайздросны
Ды акрылены цямнотай
Пнецца псоціць свет мілосны,
Пнецца зайздрасцяй употай
Павярнуць з апошніх сіл
Небаўздым у небасхіл...

Ці ж яго нябачнасць прыме
Свет узнебны ў небаўздыме?!..

*09, 10.09.2006*

***

Да супакою
Ніяк не йдзе:
Ты не са мною –
І я нідзе.

Спакой забыты
Між іншых страт –
І ў тым нібыта
Я вінават.

Я не пакіну
Яе адну,
Сваю правіну,
Сваю віну.

Няма спакою:
Ты не адна
І не са мною –
Чыя віна?

*16–17.09.2006*

## У ЗАСЕНЬ ДЗІВОСАЎ

Цябе спаткаць у цэнтры Мінска
І звезці не далёка і  не блізка –
У пушчу, матачнік, самую нетру,
Дзе цішыня на заглушэнне ветру
І нашая пазбытая самота,
З якою наўзаемніцца само там,
Каб нас у засені дзівосаў пушчы
Зычліва атуліў гушчар відушчы –
І мы упалі на бухматы мох
І я, знямоглы, не магчы не мог.

*19.10.2006*

***

Ці чуеш ты, якая перамена,
Як ты агучыла маю істоту,
Як на цябе скіроўваю праменна
Я кожную сваёй мілосці ноту?

Ці я пачну мелодыю старую,
Ці да сучаснай далучуся з краю –
Я для цябе адное аркеструю,
Я ўсім сабою для цябе іграю.

*24–25.10.2006*

## ХОЦЬ ШТО БЯРЫ ЗА ВЫМЯРЭННЕ

Хоць што бяры за вымярэнне –
Між намі ўсё адныя вёрсты,
Ды кожны з нас дзень кожны стрэне,
Адолеўшы той шлях няпросты.

Хоць што бяры за вымярэнне –
Між намі леглі кіламетры,
Яны не йдуць на прымірэнне
Ні на зямлі і ні ў паветры.

Хоць што бяры за вымярэнне –
Між намі засталіся мілі:
І як дарог пераўтварэнне
З табой прастору мы ўпрасілі?

*28–29.10.2006*

***

З табою ў нас
Адна прастора
Была заўчора.
Мінуўся час,
Прыйшлі да нас
Затым даверы
Ў адныя дзверы –
І ўжо не раз
Нам свет відно
Ў акно адно.

*31.10.2006*

***

З табой
маё судакрананне
мільгнула,
быццам на экране, –
і наступіла
пакаранне:
цябе не бачна,
я паранен.

*10–11.11.2006*

## АБЯЦАНЫ ТЫДЗЕНЬ

Няхай хутчэй надыдзе
Твой абяцаны тыдзень,
Тады ўдваіх мы будзем
Заменьваць святам будзень,
Не выпаўшы з прасторы
Па-над быццём пякельным,
Свае тварыць узоры
У свеце паралельным,
Дзе розум наш праменнем
Лунае ацалела
І дзе душа імгненнем
Зноў аднаўляе цела.

*12, 16.11.2006*

***

Чуюся прастудна-хворым,
Звязвае ўсё цела кволасць:
У бактэрый сёння кворум
І гучнейшы хорам голас.

Як іх змусіць супыніцца,
Чым змагчы іх сілу злую:
Ты – бадзёрасці крыніца,
І цябе я не цалую?..

*23.11.2006*

## У РАЙСКІМ САДЗЕ

Шумяць машыны шпарка
У вулічнай уладзе,
А мы ў бліжэйшым парку,
Нібыта ў райскім садзе.

Ні ты не спакусіла,
Ні я цябе не звадзіў –
Нязведаная сіла
Трымае нас у садзе.

Ні яблыка ў тым садзе –
Пакуль адно цвіценне,
А ў нашым у паглядзе
Ёсць плоднасці хаценне.

*25–26.11.2006*

***

На свеце зменшала святла:
Ты нехаця адна пайшла,
Я нехаця адзін застаўся,
Глядзеў тужліва й доўга ўслед,
Ніхто расстанню не пярэчыў.
І хоць відочна блякнуў свет,
Ён разам з тым і азараўся
Чаканнем нашай новай стрэчы.

*28.11.2006*

***

Мы не прайшлі ад **альфы** да **амегі**,
Мы шлях не зведалі ад ■ да **зэт**,
Забыты **бэта, гама**, іх калегі,
Бо **а** мне замяніла **альфабэт**,
Бо **А** – мой самапачатковы рух,
Ажно займае дух...

*07.12.2006*

## НАШ АГМЕНЬ

Наш агмень супольны, дарагая,
Ночаю не гасне й бляклым днём,
Разгараецца сваім агнём,
Хоць усё навокал дагарае.

Як бы не заходзілася зграя
Безагменным між сабой выццём,
Наш агмень гарыць і не згарае
Нашым неспатольным пачуццём...

*02, 07.12.2006*

***

Пайшоў я позна па каралі,
За што мяне і пакаралі:
Вярнуўся без караляў,
Бо іх усе пакралі
Для прыгажунь і краляў
І для маёе кралі...

*11–12.12.2006*

***

Табе хацеў бы я скарыцца,
мая адзіная царыца,
каб ты мне аддала ўвесь жар –
і быў я твой адзіны цар,
і цараваць была ў нас сіла,
і ты адна мяне ўпрасіла
не вызваляць твой царскі трон,
наколькі нам ставала б дзён.

*24.12.2006*

***

Я не пакінуты, здаецца,
не забыты,
але пазбаўлены з табой
судакранання,
таму самота –
ўзнагарода мне нібыта,
а мройная туга –
зусім не пакаранне.

*01.01.2007*

***

Я для цябе хачу трымцець
і быць з табой заўжды ў трымценні,
хацела б толькі ты хацець
і не спынялася ў хаценні,
каб ажыўляўся мой імпэт
тваім жарсцлівым паклiканнем,
каб сэнсам напаўняўся свет,
як мы тактыльным адчуваннем.

*02.01.2007*

## А Я ІШОЎ

Завёў я з бацькам нейк гаворку:
«Хачу за далягляд,
Знайсці Парнас наўгад,
Каб узысці на тую горку...»

Ды бацька штось забіў трывогу:
«Які яшчэ Парнас?» –
«Няма той горкі ў нас!» –
Казала маці мне ў дарогу.

А я ішоў, не мог спыніцца,
Па полі, між кустоў,
Па мураве ішоў
І набліжаўся да гасцінца.

Не быў я ў руху асцярожны –
І не далі сябры
Дапасці да гары,
Змяніўшы ў дружбе знак дарожны.

Хаця ўжо не ставала сілы,
Не браў я з рук пачвар
Спакуслівы нектар,
Якім назвалі клёк прагнілы.

Сасмяглы і падбіты ў руху,
Здавалася, гару,
Ды ўбачыў я гару –
І на рывок хапіла духу.

Яна ж мяне – о моцны Божа! –
Чакала пад гарой
Даўно з жывой вадой –
І я дакрочыў да падножжа.

Напой падаўшы для ратунку,
Яна сказала: «Час
Узняцца на Парнас» –
І мы зліліся ў пацалунку.

*04.02.2007*

## ПАЛОН

Твой пагляд зялёны
Кліча зноў на ўлонне,
Дзе, табой натхнёны,
Я ў тваім палоне.

*

Мой палон –
Твой эталон
Як вызваленне
На паклон,
На пакланенне.

*09, 10.04.2007*

## НЕ БЫЛО Ў НАС ДАМОВЫ

Не было ў нас дамовы
Разам быць на сяўбе:
Цябе клопат дамовы
Затрымаў ля сябе.

Хай не склаліся ўмовы
На пасеўнай дзяльбе,
Але ёсць яшчэ ў мовы
Словаў шмат для цябе.

Невядомыя сховы
Нам адкрыюцца хай –
Там мілосныя словы
Заклікаюць: «Кахай!..»

*18.04.2007*

## НА СОН

Адно імя тваё
на сон,
каб мне з табой
у сне застацца,
каб сэрцы нашы
ва ўнісон
і да цябе
са сну вяртацца.

*20.04.2007*

## УЗАЕМНАСЦЬ

Блакіт і зелень воч
Праменяць бірузу
І асвятляюць ноч,
Як горкую слязу,
Як кроплю чысціні
Аззянай з глыбіні
Ўзаемнасці дваіх –
І свет ідзе да іх...

Воч зелень і блакіт
Праменнем бірузы
Аззялі алфавіт,
Пазначыўшы азы,
Як кроплі чысціні
У ночы, у цяні
Ўзаемнасцю дваіх –
І свет ужо для іх.

*23.04.2007*

## КАРАВАЙ МІЛОСЦІ

Ты выпекла з маёй мілосці каравай,
Які мне апетытна засціў небакрай:
Цягніся да яго, на лёс не наракай,
Цябе не дакарай, тым болей не кара́й,
Што пацукі пагрызлі каравая край
І не адкрыецца за небакраем рай.

*29.04.2007*

## МЯЖА

Мяне прывабіла твая мяжа
Аздобаю інтымных межаў.
Адзін я ля мяжы тваёй ляжаў,
Хаця табе і не належаў.

Не пераходзіў я тваю мяжу:
Ты мне не адкрывала візаў,
Таму сабе самому я кажу:
«Цябе не зведаў я, не вызнаў!»

Трымацца ля самой тваёй мяжы
Дагэтуль неяк я сумеў жа...
Дзе перайсці мяжу, мне пакажы –
І мы скіруемся ў бязмежжа.

*03.06.2007*

## ПАКІНЬЦЕ

Даклікáцца зноў і зноў пакіньце,
Звабам да мяне ўжо не дабрацца:
Я ў яе дзівосным лабірынце,
Не выходжу з любасных вібрацый –
Спозненага водгулля на рытмы
Неспазнаных Боскіх першатвораў,
Дзе быццёвы ігнаруем спрыт мы,
Свой уціхамірваючы нораў
І сябе ўзнаўляючы змірэннем
Перад тайны Боскае тварэннем.

*17.06.2007*

# МАЎЧАННЕ

Ідуць за мной і прада мной мінчане
і ўсе чамусь такія гаваркія,
а ў нас з табой чутно адно маўчанне.
Для нас адных маўклівасці стыхія
пакуль адзіны сёння спадарожнік
у шлях, дзе словы толькі дарагія
і слоў не раздабыць пустапарожніх.
Ступаем у напрамку мы сустрэчным,
выходзячы на шлях для нас магчымы,
няма ў ім месца словам недарэчным,
таму з табой здалёку і маўчым мы.
Калі мілосных слоў паўнюткі келіх
я набяру адзін і ты адна,
мы сыдземся на любай паралелі
і вып'ем нашы келіхі да дна.

*25.06.2007*

## У БЕСКАНТАКТНАЙ ПАЛСЕ

З табой мы ў бескантактнай паласе,
Таму ўжо не ў прасторы і не ў часе,
Таму не там зусім, дзе ёсць усе,
Мы па сабе, як для сябе ў запасе.

Мы ў бескантактнай зніклі паласе,
Таму не ў часе ўжо і не ў прасторы,
Мы выйшлі з хранатопа пакрысе –
І кожны паасобку дзень каторы.

Мы ў бескантактнай покуль паласе,
Таму ў прастора-часавай дзяльбе,
Таму ў па-запрасторы час нясе
Нас па сабе, але ці для сябе...

*26.06.2007*

# МАЯ ПАРАЗА

*Und der Sklave sprach: ich*
*heißeMohamet , ich binans Jemen,*
*und mein Stanun sind jene Asra,*
*welche sterben, wenn sie lieben.*
*(Генрых Гейнэ)*

Тваёй праграмаю ўзаемін
Я спазнаю сваю паразу:
Нібыта я ў краіне Йемен
І сам як быццам з роду азраў...

Штодзень прыходжу да фантана
І мізарнею ад чакання,
Каб моўчкі стрэць дачку султана
І каб памерці ад кахання.

*21.07.2007*

## НІБЫ ТАДЫ

Нібы тады,
твой сілуэт
і малады
на ўсе лады
я твой паэт,
але... але
на мройным тле.

Развёў нас свет,
у незварот
і на скарот
шмат знікла лет,
нямала дзён –
я не юнак,
не маладзён.

Падай мне знак, –
калі відзён
я так, як ёсць, –
і я вярнуся ў маладосць.

*22.07.2007*

## НЕ ПА ЧАСЕ

Калі старасць лягла ля парога
І ўспамінаў мілосць пачалася,
Калі знікла з вачэй насцярога –
Нам знайсціся было не па часе.

Нам знайсціся было не па часе,
Толькі б мы суадкрыцца паспелі:
Мы сустрэчы трымалі ў запасе,
Хоць стрымацца зусім не хацелі.

Хоць стрымацца зусім не хацелі,
Ды трымаліся ў розных прасторах,
Дзе між намі пусцелі пасцелі
На ўзаемаўгаданых узорах.

На ўзаемаўгаданых узорах
Успамінаў мілосць пачалася:
Мы трымаліся ў розных прасторах,
А знайшліся ў адной... не па часе.

*10-12.09.2007*

## І ЎДЗЕНЬ І ЎНОЧ

...ты ўжо самахоць
да мяне прыходзь
раз на тыдзень хоць

а на кожны дзень
будзе згадкі цень
любасных трымцень

а між кожных дзён
будзе ўноч відзён
пра цябе мой сон

будзеш па начах
на маіх вачах
на цябе адну
и не раз зірну...

*18.09.2007*

## ВЫЙСЦЕ

Спакой нябёс асенні
Для нас кружляе лісце,
А мы ступілі ў сненне
І не шукаем выйсця.

На лісцях, як калісьці,
Падказам ззяюць словы,
Як нам з табою выйсці
На сцежку да альковы.

*19.09.2007*

## ДАВЕР

Калі ў сілу ўбіраліся злыдні,
А з табой мы ўступілі ў чацвер,
Ў дзень апошні мужчынскі на тыдні,
Я спазнаў твой жаночы давер.

Ды якую б не песціў надзею
І які б не здзяйсняў я намер,
Ты сабе пакідаеш нядзелю.
Без мяне ж застаешся цяпер
І на пятніцу ўжо й на суботу,
Серада – твой адзіны манеўр,
Каб тыднёвую скрэсліць самоту
І пачаць у чарговы чацвер
Пачаканнем сагрэты давер.

*24 – 25.09.2007*

## ГУКАЮ

я цябе даўно гукаю-каю-каю,
каюся ў старых грахах сваіх;

стрэну, ў вочы пазіраю-раю-раю,
раюся – і слухаюся іх;

ля сябе цябе трымаю-маю-маю,
маюся тады ўжо лепш за ўсіх;

зноў і зноў цябе гукаю-каю-каю,
каюся, малюся за дваіх...

на цябе не наракаю,
аднаго сябе караю:
застаюся з краю...

*30.09.2007*

***

Гляджу й гляджу замроены ўспамін
І бачу, як з яго дрыготкай дымкі
І з па-зачасавых ужо хвілін
Ты набліжаешся ў мае абдымкі.

Уяўнена як быццам незнарок
Ты для мяне ў шчадроце беларускай,
І прагне наталення смелы зрок
Тваёй раскошай пожаднай пад блузкай.

У паімкненні першы дотык рук
З'яўляе гожасці праўдзівай простасць –
І чутна, як маёй мілосці ґук
Мелодыяй тваю займае постаць.

*14.10.2007*

***

З табой мы дзве істоты
і дзве субстанцыі таксама,
мы пчолкі – запаўняем соты
нектарам на паўміліграма,
каб потым нехта не мядзведзь
спажыў яго аб'една
і на нагах трымаўся ледзь
або ступаў бясследна
і быў для нас няведам
за нашым жа абедам...

*15.10.2007*

I

Колькі прамінула зім:
Не са мною ты, а з ім.

II

Колькі прад дзвярмі не стой,
Ступіш у праём не з той.

III

Славы без заслуг не будзеш мець,
Як бы не звінела трубаў медзь.

IV

Колькі б не гучала струн,
Водгуку не чутна з трун.

V

Са словам свой учынак звер,
Пакуль ты чалавек – не звер.

VI
Покуль зло на лоўлі душ,
Будзь і ў знемажэнні дуж.

VII
Прагнеш моцна быць сваім у зор –
Вынайдзі ў сусвеце свой узор.

VIII
Ты падалася, здэцца, ў лес –
І я ў гушчар бяздумна ўлез.
Я кінуўся, бы ў казку, ў бор,
Дзе твой мільгнуў здалёку ўбор.
Прайшоў я шлях і сцежак з трэць,
Але цябе не здолеў стрэць.

IX
Лепш не запасаць вялікіх сум,
Каб са стратай не адолеў сум.

X
Я прад табою не адзеты –
Ды тут цябе няма?! А дзе ты?

XI
На тое і Ўсявышняга абраз,
Каб жыць без крыўды, злосці і абраз.

XII
Зло ўсёроўна застанецца злом,
Колькі ні кідаць яго на злом.

XIII
Які ні быў бы лёс твой горкі,
Не пакідай занятай горкі.

XIV
Шчасліва выйшаўшы з варот,
Запомні шлях свой на зварот.

XV
Ніякі мадэрновы душ
Не змые зайздрасць чыста з душ.

XVI
Ты да мяне прыходзіш і прыходзіш вось,
Каб раскруціць для нас зямное кулі вось.

XVII
Мяне спаткала сёння ты з дакорам –
І любасць памяняла свой дэкорум.

XVIII
Задумацца над выйсцем варта,
Калі наўкола толькі варта.

XIX
Чым горшы ты, тым больш грашы,
І не за грошы – за грашы.

XX
Каб не псаваць ні людзям, ні сабе крыві,
Душой ні перад кім ніколі не крыві.

XXI
Выходзячы на людзі з-за глушы,
Інстынкт драпежны заглушы.

XXII
У цэнтры прыхадні і госці,
А сам ва ўласнай хаце з краю,
Бяседны гонар для кагосьці –
І сам свайму чужэеш краю.

XXIII
Сам сабе самому рай,
Як пазнаць дарогу ў рай.

XXIV
Чаму адкладваеш сыры,
Калі твой пограб шчэ сыры?

XXV
Які ні быў бы шлях даўгі,
Яго не пройдзеш за даўгі!

XXVI
Найлепшыя ашчадныя працэнты –
Не думаць пра даляры і пра цэнты.

XXVII
Як не хавай мяне ад сонца за гару,
А я ў праменнях усё роўна загару.

XXVIII
Мне чуецца па голасе тваім, па зыку:
Ты ў д’ябла на сумленне адхапіў пазыку.

XXIX
Не канфліктуй з усімі і з усім,
Бо пра сябе забудзешся зусім.

XXX
Нібы разладжаны раяль, гучыць настрой –
З’явіся ж па канцэрце і мяне настрой.

*27.01.–29.04.2007*

## З англійскай

### Уільям Шэкспір

(1564–1616)

### 90 САНЕТ

А як са мной расстацца давядзецца,
То лепей знелюбі мяне цяпер,
Калі за ўчынкі свет з мяне смяецца
І лёс укрыжаваў сярод хімер.

Не прынясі з сабой дажджысты ранак
Пасля начнога ветру акурат,
Калі сардэчныя зацягне раны,
Не стань апошняй стратаю між страт.

Не пакідай мяне пасля ўсіх бедаў,
Пасля ўсяго, што я ўжо перанёс,
Але пакінь спачатку, каб уведаў
Я горшае з таго, што дорыць лёс.

Калі мяне пакінеш, як гаворым,
Не будуць беды іншыя ўжо горам.

*1590 (?)* *2007*

**Уільям Ўордсварт**

(1770–1850)

## СХАВАЎ МЯНЕ Ў САБЕ ЎЖО СОН

Схаваў мяне ў сабе ўжо сон –
І знік дзень палахлівы,
Душа, трапляючы ў палон,
Не чуе час імклівы.

Не мае пэўнай сілы дух,
Душа пад адранцвеннем
Зямны кружляе рух
За дрэвамі й каменнем.

*1799* *2007*

## Персі Бішы Шэлі

(1792–1822)

### ДАБРАНАЧ

Дабранач, хоць ад слоў не звесці воч,
І не настане добры час адразу,
Бо добрай будзе толькі тая ноч,
Якая нас адных пакіне разам.

Як ноч самоты добрай назаву,
Калі пяшчота перайшла на словы.
Калі б усё збылося наяву,
Тады я добрай ноч прызнаць гатовы.

Ні добрай ночы і ні іншых слоў
Не трэба, бо і так усё сказана,
Калі два сэрцы любыя наноў
Пульсуюць ноччу побач закахана.

*1819* *2007*

## З польскай

### Адам Міцкевіч
(1798–1855)

### УСПАМІН

Лаура, той дзівосны час у нашы леты
Ці паўстае калі прад памяццю тваёю?
Як мы былі адны занятыя сабою,
І не для нас быў клопат нам чужога свету.

Дзе ў зелені язмін ахоўвае сакрэты,
Дзе точыцца ручай нізінай лугавою,
Там часта мы ў жаданні роўныя з табою
Былі глыбокай ноччу любасна заспеты.

А месяц, з-пад аблокаў выглянуўшы ўночы,
Блішчэў, як залаты пярсцёнак, у чаканні
І боскасць хараства быў высвеціць ахвочы.

Тут сэрцы ўзносіць слодыч парывання,
Насустрач вусны, і ў вачах знікаюць вочы,
І слёзы, і з дыханнем змешана дыханне.

*1818* *1995*

## АКЕРМАНСКІЯ СТЭПЫ

Плыву я ў пространі сухога акіяну,
Мой воз нырцуе, нібы лодка, ў зеляніне,
Між хваль травы й паводкі кветак у нізіне,
Мінаючы каралы-астравы бур'яну.

Апала цемра – ні дарогі, ні кургану;
Шукаю ў небе зор – падказак пуцявіне.
Блішчыць дзянніца там ці промні ў аблачыне?
То ж бляск Днястра: ўзышла ўжо лямпа
Акерману!

Спынемся! Ціха як! Чуваць ключ жураўліны,
Куды паглядам нават сокал не сягае,
Я чую, як матыль расхіствае сцяблiны,

Як целам слізкім вуж траву ледзь закранае.
З Літвы я голас, здэцца, ў гэтыя хвіліны
Пачуў бы. Едзьма, ніхто не паклікае!

*1825–1826* *2005*

## Уладзіслаў Сыракомля

(1823–1862)

### НА РЭХА ЗВОНУ

Паважны мерны чую звон, хаця й далёка,
У мілях дзвюх, рыхтуецца імша святая,
Ад бронзы рэха калыхаецца ў аблоках,
Вячэрнюю паветра вільгаць разбівае,

Ажно ў грудзях маіх, як у пустой пасудзе,
Яго адгук магутна й важка раздаецца,
Знаць, свячанае рэха, бо ў ягоным гудзе
Трымціць слязой павека, а малітвай – сэрца.

Ты, Божа, асвяціў і розгалас высозны
Даў рэху ад металу цвёрдага, ад бронзы,
То асвяці мой дух і мой напеў душэўны,

Каб ён, шчасліва поўны свячанага тону,
Расплыўся па зямлі шырокай, як гук звону,
І да сумлення брацціям указаў шлях пэўны.

*1847* *2005*

**Леапольд Стаф**
(1878–1957)

## У СТАРЫМ ПАРКУ

Вось парк, трава і дрэвы.
Тут, як за райскай брамай,
Жыло маё юнацтва
І жыў мой лёс таксама.

Я слухаю самотнасць
Бярозаў шапатлівых.
З тых год няма нічога,
Ёсць толькі я, маўклівы.

Адно жыццё ачахла
І знікла ў краі зданяў,
Такія ўсюды змены,
А іншым свет не стане.

Душа глядзіць наўкола,
Як месяц раніцою,
Якога ноч забыла
Чамусь забраць з сабою.

*1946* *1985*

## З рускай

**Аляксандр Пушкін** (1799–1837)

### ВЯЗЕНЬ

Сяджу я ў вязніцы, мінаюць гады.
Выраслы ў няволі арол малады,
Мой скрушны таварыш махае крылом,
Крывавую ежу дзяўбе пад акном,

Дзяўбе, пакідае, глядзіць у акно,
Нібыта са мною задумаў адно.
Паглядам ён кліча і крыкам сваім
І выказаць хоча: «Давай паляцім!

Мы вольныя птахі; пара, брат, пара!
Туды, дзе за хмурай бялее гара,
Дзе сіняя прастрань і воля свая,
Дзе толькі вятрыска гуляе ... ды я!»

*1822* *2003*

**Фёдар Цютчаў**
(1803–1873)

## ВЯСЕННЯЯ НАВАЛЬНІЦА

Мне любы той пачатак мая,
Калі вясенні першы гром,
Нібы свавольнік загуляе,
Загрукаціць перад дажджом.

Грымяць раскаты маладыя,
Вось пырснуў дождж і пыл прыбіў,
Павесіў перлы вадзяныя,
Пад сонцам ніці ўзалаціў.

З гары бурліць ручай увішны:
Не моўкае ў лесе птушак хор,
І грай лясны, і шум навышні –
Усё грамам вясёлы ўтор.

Ты скажаш: летуценка Геба,
Паіўшы Зеўсава арла,
Громакіпучы куфаль з неба
На дол у жарце разліла.

*1829, 1854* *2001*

## Міхаіл Лермантаў

(1814–1841)

### ВЕТРАЗЬ

Бялее ветразь адзінокі
У сіняве смугі марской!..
Што ў свеце знойдзе ён далёкім?
Што з роднай кінуў стараной?..

На хвалю хваля набягае,
А вецер свішча й мачту гне,
Ды шчасця ветразь не шукае
І не ад шчасця ўдалеч мкне.

Пад ім блакіт бруіцца роўны,
І сонца бляск праменіць свой,
Ды прагне буры ён, бунтоўны,
Нібыта ў бурах ёсць спакой!

*1832* *2002*

## Post scriptum

Беларускае «але» неадназначнае, яно выяўляе проціпастаўленне і альтэрнатыву, пацверджанне і дадатковасць, а ў граматыцы – гэта і злучнік і часціца, але з рознымі адценнямі сэнсу – ад згоды і захаплення да іроніі і абурэння. У «але» вельмі шырокі семантычны спектр. Таму тытульнаму ці назыўному «але» быў намер надаць найперш ролю абагуленага выказвання накшталт «але і я не прамаўчу», тым болей, што з «але» пачынаецца **але**горыя; але гэта адначасна і маё далучэнне да нашага сумоўя, маё паразуменне з чытачом і маё разуменне рэчаў, бачанне з'яваў; але колькі б і як бы я ні дзяліўся сваім светаўспрыманнем з зычлівым чытачом, і ў яго і ў мяне застаецца сваё «але», нават пасля паразумення, нават пасля таго, калі кожнаму з нас праз напісанае і прачытанае ўявілася, што ён ідзе па цяністай **але**і, на якую вось-вось выскачыць **але**нь, назірае парад**але** ці слухае знаёмае, крыху забытае **але**гра і шмат што яшчэ да таго падобнае; але ва ўсякім выпадку мне хацелася б, каб ад маіх вершаў, частка якіх з 1957 года друкавалася ў «Чырвонай змене», «Краязнаўчай газеце», «ЛіМе», «Вясёлцы», «Маладосці», у Днях паэзіі і іншых выданнях, не ўзнікла **але**ргія на вершаваныя творы, але і тут не можа не быць свайго «але»...

# ЗМЕСТ

**ЛІРЫКА ІІ**

**МАКСІМЫ**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Мархель** Уладзімір Іосіфавіч

але...

*Выбраная лірыка*

Адказны за выпуск *В. Басава*
Рэдактар *У. Пучынскі*
Карэктар *Т. Мархель*
Тэхнічны рэдактар *В. Басава*
Камп'ютэрны набор *Н. Волкава*
Вёрстка *С. Мілюціна*

Ідэя афармлення і лагатыпы *У. Мархеля*

Падпісана да друку 10.12.2007 г. Фармат $60x84^{1}/_{32}$.
Друк афсетны. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Ум. друк. 6,045 арк. Ул.-выд. 5,74 арк.
Наклад 500 паас. Заказ № 1488.

ГА «Беларускі фонд культуры».
Ліцэнзія ЛИ № 02330/0133083 ад 30.04.2004.
220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.

Надрукавана ў друкарні ПУП «Ходр» ГА «БелТІЗ».
ЛП № 02330/0056661 ад 29.03.04.
220004, г. Мінск, вул. Вызвалення, 9.



*З самім сабою стрэцца вераемна,*
*Вярнуцца ўяўна ва ўчарашні дзень,*
*Быць тут і там з сабой тым узаемна*
*І з гэтым не адмовіць стрэчных дзей,*
*І спалучыць яшчэ ў сабе самім*
*Этапы пакаленняў прадусім!*


ISBN 978-985-6523-25-3